# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“ Цана 30 н. фэн., для заграніцы — 50 н. ф.

№ 4(48) 30 СТУДЗЕНЯ 1949 Г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 3


## У ДРУЖБЕ І ЗАДЗІНОЧАНЬНІ

### ГАДАВЫ СХОД МІЖНАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ ПАЛІТЫЧНЫХ УЦЕКАЧОЎ І ПЕРАМЯШЧЭНЦАЎ

МКПУП, у ангельскім скарочаньні — ІНКОПОРЭ, быў зарганізаваны 30 студзеня 1946 г. у Ганаў прадстаўнікамі трох нацыянальнасьцяў: беларусаў, украінцаў і летувісаў. Мэтай яго зьяўляецца каардынацыя дзейнасьці ўсіх Нацыянальных Камітэтаў у сэнсе сацыяльнай і культурнай дапамогі ўцекачом і перамяшчэнцам у эміграцыі. Таму нічога дзіўнага, што гэная думка хутка знайшла зразуменьне сярод усяе эміграцыі ў Нямеччыне і сяньня ў МКПУП уваходзяць ужо 18 наступных нацыянальнасьцяў: армяне, азэрбайджане, баўгары, беларусы, грузіны, казакі, латышы, летувісы, мадзяры, палякі, паўночна-каўкасцы, сэрбы й славенцы, славакі, туркестанцы, украінцы, харваты, чэхі й эстонцы.

Камітэт мае некалькі сэкцыяў: праўную, культурна-асьветную, спартавую, перасяленскую, прэсавую й студэнцкую. У вапошні час быў зарганізаваны саюз інтэлектуалістых, прафэсыйны саюз, саюз мастакоў і камісія па арганізацыі міжнацыянальнага ўнівэрсытэту.

Найменей адзін раз у месяц адбываюцца пленарныя паседжаньні, акрамя таго, поўгадавыя й гадавыя сходы. Вось такі гадавы сход і адбыўся ў Мюнхене 23 і 24 студзеня г.г. Першы дзень сходу, які адбыўся ў Амэрыканскім Доме ў Мюнхэне, меў урачысты характар. На гэтае паседжаньне былі запрошаныя прадстаўнікі амэрыканскіх іраўскіх уладаў, нямецкіх і эміграцкіх вышэйшых навуковых установаў, замежнай, нямецкай і эміграцкай прэсы і шмат асабовых дэлегацыяў усіх Нацыянальных Камітэтаў — сяброў МКПУП. Вялікая заля была запоўненая людзьмі й упрыгожаная нацыянальнымі сьцягамі. Сярод іх быў і наш беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Старшыня сходу — праф. д-р В. Голі (славак) паклікаў ганаровы прэзыдыюм, у які ўвайшлі старшыні ўсіх Нацыянальных Камітэтаў, у тым ліку й старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту. **Перад усімі старшынямі знаходзіліся на стале іх нацыянальныя сьцяжкі.**

**Урачысты сход распачаўся адсьпяваньнем эстонскім мужчынскім хорам у складзе 45 асобаў дзьвюх эстонскіх песьняў. Пасьля наступілі прывітаньні. Першым прывітаў сход і асабліва гасьцей, прадстаўнікоў розных арганізацыяў і прэсы старшыня праф. д-р В. Голі.**

Наступна віталі сход прадстаўнікі ўсіх Нацыянальных Камітэтаў, кажны ў сваей роднай мове. Усе прамоўцы заклікалі прысутных да ўзмацненьня дружных і прыяцельскіх дачыненьняў сярод эміграцыі, да змаганьня за справядлівасьць і свабоду ў сьвеце.

Прадстаўнік Беларускага Нацыянальнага Камітэту словамі нашага вялікага паэты-прарока Янкі Купалы выказаў шчырыя імкненьні беларускага народу да дружнага і згоднага сужыцьця ў вялікай салідарнай сям'і народаў, бо толькі гэты шлях дружбы вядзе сяньня да адваяваньня свабоды і гарантуе прагрэс у будучыні. У гэтым сэнсе беларусы ад усяго сэрца вітаюць арганізацыю, што задзіночвае 18 народаў, цешацца зь ея росту і жадаюць ёй найлепшых вынікаў працы на новым этапе.

Пасьля прывітаньняў старшыня сходу прачытаў рэфэрат аб дзейнасьці МКПУП, наступна сп. А. Кальвайціс пазнаёміў прысутных з мерапрыемствамі Камітэту адносна сацыяльнай дапамогі старым і хворым перамяшчэнцам, а праф. д-р Мірчук аб нашых культурных дасягненьнях. Прыгэтым прамоўца ўспомніў таксама й важнейшыя беларускія культурныя арганізацыі й установы.

Адсьпяваньнем ізноў тым жа хорам трох эстонскіх песьняў закончылася ўрачыстае паседжаньне сходу.

Наступны дзень, 24 студзеня, у памешканьні дому нямецкых лекараў, адбылася працоўнае паседжаньне. Пасьля дакладнай справаздачы прэзыдыюму аб мінулай дзейнасьці, адбылася рэчовая дыскусія й былі прыняты пастановы адносна далейшай дзейнасьці Камітэту. Між іншым была зьвернута ўвага на тое, што наша прэса не заўсёды добра служыць ідэі нашага супрацоўніцтва, наадварот, часта без патрэбы завастрае нацыянальныя непаразуменьні. Была таксама зьвернута ўвага на неабходнасьць стварэньня супольнае базы ў справе перасяленьня. Сход абгаварыў і прыняў шэраг мерапрыемстваў дзеля абароны правоў перамяшчэнцаў.

Старшынёй МКПУП на наступныя 6 месяцаў быў выбраны мадзяр д-р Моор. У адзін з органаў Камітэту, а іменна — ганаровы суд, быў выбраны таксама беларус.

У. Курыловіч.

## ЗА ЧЫСЬЦІНЮ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ІДЭІ

Нацыянальна-вызвольная ідэя кажнага паняволенага народу толькі тады зьяўляецца творчым і прагрэсыўным дзейнікам, калі яна ёсьць чыстай у сваей мэтанакіраванасьці й вольнай ад розных ухілаў, скрыўленьняў і кампрамісаў. Гэткай-жа павінна быць і практычная палітычная дзейнасьць дадзенага народу ці грамадзянтва, якая вядзе да ажыцьцяўленьня гэтае ідэі. Адсюль вынікае, што практычная дзейнасьць грамадзянства павінна быць заўсёды ў згодзе зь ягонай ідэалягічнай канцэпцыяй, бо абодвы гэтыя мамэнты зьяўляюцца неразьдзельнымі й узаемна сябе дапаўняюць. І наадварот, калі практычная дзейнасьць грамадзянства разьмінаецца зь ягонымі нацыянальнымі мэтамі ці нат ім супярэчыць, дык тады ягоная ідэя становіцца ня чым іншым, як пустым гукам, пазбаўленым канкрэтнага зьместу.

Гэта ёсьць жывая й спрадвечная праўда, шырака сьцверджаная сярод многіх народаў у розныя часы іхнае гісторыі. Мы беларусы, што маем перад сабой зусім ясную й скрышталізаваную ідэю — здабыцьцё вольнасьці й незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны — мусім аб гэтым асабліва помніць. Нас гэта датычыць тым больш, што, дзякуючы нашаму геапалітычнаму палажэньню, мы знаходзімся паміж захопніцкімі суседзямі, што доўгі час няволілі, няволяць сяньня й імкнуцца ў будучыні няволіць беларускі народ. Гэтая апошняя акалічнасьць ускладае на нас абавязак быць асабліва асьцярожнымі ў нашых дачыненьнях з тымі суседзямі, якія ня вызбыліся й ня думаюць вызбыцца сваіх прэтэнсіяў на Беларусь.

Сьвежая яшчэ гісторыя беларускага вызвольнага руху дае нам яскравыя прыклады таго, як балюча можа мсьціцца тая акалічнасьць, калі грамадзянства ці пэўная яго частка пойдзе на кампраміс із варожымі нашай нацыянальнай ідэі дзейнікамі, наіўна надзеючыся выкарыстаць іх для нашай справы. Ня трэба больш вымоўнага прыкладу, як дзейнасьць **у Заходняй Беларусі Сялянска-Работніцкай Грамады, якая пайшла была на супрацоўніцтва з камуністымі, каб выкарыстаць апошніх для беларускай нацыянальнай справы.** Ня можа быць найменшага сумліву ў тым, што кіраўнікі Грамады ў большыні сваей былі людзьмі ідэйнымі й дзеілі ў найлепшай веры. Няма таксама найменшага сумліву ў тым, што Грамада прынесла шмат карысьці. Яна ўпяршыню заактывізавала ў шырокім маштабе масы беларускага сялянства ў Заходняй Беларусі, значна падняла іхнюю нацыянальную сьведамасьць і разбудзіла сярод яго рэвалюцыйны дух змаганьня. Але разам з гэтым Грамада, дзякуючы прасавецкай арыентацыі сваіх вярхоў, прыгатавала на Беларусі падатны грунт для камунізму, што й выкарысталі шырака савецкія агенты на вялікую шкоду беларускага народу пасьля зьліквідаваньня польскім урадам Грамады. І толькі тады нашае сялянства й моладзь вылячыліся раз назаўсёды ад камунізму, калі занялі ў 1939 г. Заходнюю Беларусь бальшавікі й паказалі свой «сацыялізм» такім, якім ён ёсьць у запраўднасьці. Падсумоўваючы плюсы й мінусы, прыходзіцца, нажаль, сьцьвердзіць, што ў канчальным выніку ня лідэры Грамады выкарысталі камунізм для беларускай нацыянальнай справы, але камуністы выкарысталі Грамаду для сваіх супрацьбеларускіх мэтаў.

Другім ня менш вымоўным прыкладам вялікае шкоднасьці адыходу ў практычнай дзейнасьці ад нацыянальнае ідэі й арыентацыі на варожыя сілы можа служыць дзейнасьць у Заходняй Беларусі г. зв. беларускай «санацыі» на чале з Астроўскім, якая, пасьля зьліквідаваньня Грамады, распачала паланафільскі курс. Тут толькі мусім адцеміць, што, прыводзячы гэтыя два прыклады, мы ня маем на думцы ставіць знаку роўнасьці паміж лідэрам Грамады Тарашкевічам і лідэрам санацыі — Астроўскім: першы дзеіў з матываў ідэйных, хоць і мыляўся, другі — з матываў асабістае карысьці, галоўнае таму, каб за грамадзкую дзейнасьць не сядзець у турме, як гэта сталася зь ідэйнымі кіраўнікамі й дзеячамі Грамады. Ня гледзячы на зусім розныя матывы дзейнасьці гэтых двух кірункаў і людзей, сутнасьць іх тая самая. Вось-жа вынікам дзейнасьці беларускіх паланафілаў на чале з Астроўскім было тое, што людзі гэтыя памагалі палякам зьліквідаваць цэлы рад беларускіх культурных установаў і расправіцца з выхаваным імі-ж самымі за часоў іхнага пракамуністычнага курсу рэвалюцыйным элемэнтам (прыкл. вучні віленскай беларускай гімназіі, якіх Астроўскі, як дырэктар, перадаваў у рукі польскай паліцыі), а за гэта для беларускай справы не атрымалі абсалютна нічога. І ўся гэтая палітычная авантура закончылася тым, што ня толькі беларускае грамадзянства аб'явіла байкот Астроўскаму, як бэздзейнаму й антыграмадзкаму чалавеку, але адпіхнулі яго ад сябе й палякі пасьля таго, калі іхнае заданьне поўнасьцю выканаў і быў болей непатрэбным.

Гэта зусім не абазначае, што мы, у імкненьні да захаваньня чысьціні нашае нацыянальнае ідэі, павінны адгарадзіцца кітайскім мурам ад іншых народаў, у тым ліку й суседзяў, і незалежна ад агульнапалітычных тэндэнцыяў, што пануюць у дадзеную пару, адзінотна развіваць нашую дзейнасьць. Наадварот, такая нашая замкнутасьць і адзінотнасьць была-б толькі шкоднай,

## КІТАЙ КАПІТУЛЮЕ

Пасьля таго, калі Чан-Кай-Шэк зрокся становішча прэзыдэнта Кітая, на ягонае месца прыйшоў — згодна канстытуцыі — дасюлешні віцэ-прэзыдэнт Лі-Тсунг-Ен. Галоўнакамандуючы ўрадавых войскаў у паўночным Кітаі Фу-Тсо-І 22 студзеня падаў да ведама, што 23 студзеня ўрадавыя войскі здадуць камуністым Пэкін згодна з дагаворам з апошнімі аб сэпаратным перамір'і. Урад нацыянальнага Кітая згадзіўся прыняць 8 пунктаў камуністых, — аб якіх мы пісалі ў папярэднім нумары — якія мелі зьяўляцца перадумовай да распачацьця мірных перамоваў. Для гэтай мэты нацыянальны ўрад ужо вызначыў дэлегацыю ў складзе 5 асобаў для вядзеньня мірных перамоваў з камуністымі.

Чан-Кай-Шэк у сваім апошнім звароце да кітайскага народу заявіў, што ён будзе шчаслівым, калі камуністычная партыя належна зразумее й ацэніць тое цяжкое палажэньне, у якім апынуўся Кітай, спыніць ваенныя дзеяньні й распачне мірныя перамовы. Ён афіцыйна зазначыў, што ўзноў пярэйме ўладу ў выпадку, калі стараньні аб распачацьці мірных перамоваў з камуністымі не дадуць пажаданых вынікаў. Далей ён заклікаў кітайскі народ «з усяго сэрца» падтрымліваць ягонага наступніка Лі-Тсунг-Ена. Напасьледак Чан-Кай-Шэк зацеміў, што на працягу 21 году ён, як нацыянальны палітык толькі адзін раз быў наважаны змагацца да канца, гэта — у кітайска-японскай вайне. Паза гэтым ён заўседы імкнуўся знаходзіць мірныя спосабы развязваньня канфліктаў.

Апошнімі днямі ўрадавы войскі атрымалі загад пакінуць паўночны бераг ракі Янг-Тсэ-Кіянг. Яе паўдзённы бераг мае быць баронены «за ўсякую цану», калі ў міжчасе ня дойдзе да спыненьня ваенных дзеяньняў. Тымчасам на гэтай лініі камуністыя націсікаюць з усей сілай і прыгатаўляюцца да пераходу ўспомненай ракі 55 клм. на ўсход ад Нанкіна. Гарадзкая рада прадпрыняла меры, каб за прыкладам Пэкіна дамагчыся сэпаратнага міру з камуністымі. Нацыянальны ўрад афіцыяльна падаў да ведама аб сваім перасяленьні з Нанкіна ў Кантон. Як паведамляе Рэйтэр, камуністыя згадзіліся на распачацьце мірных перамоваў і запрапанавалі праводзіць іх у Пэкіне, у якім сяньня дзеіць супольная адміністрацыя камуністых і нацыяналістых.

### ГАСПАДАРСКІ ПАКТ УСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ

На нядаўна адбытай канфэрэнцыі ў Маскве прадстаўнікоў Савецкага Саюзу, Баўгарыі Польшчы, Румыніі, Мадзяршчыны была створаная Рада для ўзаемнай гаспадарскай помачы. У выданым 25 студзеня камунікаце гаворыцца, што аднэй з прычынаў паўстаньня гэтага пакту было тое, што заходнія дзяржавы сабатавалі гандлёвыя дачыненьні з «народнымі дэмакратыямі» і з Савецкім Саюзам. На падставе гэтага пакту будзе весьціся вымена гаспадарскіх машынаў, прадуктаў харчаваньня й сыравіны. Кансэрватыўная парыская газэта «Ль-Эпок» зазначае, што дзякуючы гэтай новай арганізацыі Саветы будуць імкнуцца да ўзмацненьня гаспадарскай кантролі ўсходня-эўрапэйскіх гаспадарстваў.

**Беларусы! Далейшы лёс «Бацькаўшчыны» ў Вашых руках. Яна зможа ў далейшым выходзіць толькі тады, калі ўсе падпішчыкі бездакладна сплацяць сваю задоўжанасьць, аплацяць бягучую падпіску, а таксама калі, апрача гэтага, усе зарабляючыя беларусы прыйдуць ей з матарыяльнаю помаччу.**

**Беларусы! Выпісвайце, чытайце й пашырайце адзіную нашую незалежніцкую газэту на чужыне — «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

### «ПЛЯН МАРШАЛЯ» ДЛЯ КАЛЁНІЯЎ

Брытанскі міністар замежных справаў Бэвін у сваей прамове перад прадстаўнікамі замежнай прэсы адобрыў праект прэзыдэнта Трумана памагаць краінам, адсталым з гледзішча гаспадарскага і зьвярнуўся з заклікам да ўсіх народаў сьвету, каб апошнія прыйшлі з помаччу каляніяльным народам шляхам стварэньня «Пляну Маршаля для каляніяльных краінаў». Толькі такім спосабам на думку Бэвіна — можна быць пасьпяхова пераможаны камунізм. Вышэйшы жыцьцёвы ўзровень і супрацоўніцтва паміж заходнім цывілізаваным сьветам і каляніяльнымі народамі забясьпечыць гэтых апошніх перад камуністычнымі ўплывамі.

### САВЕЦКІЯ СТРАТЫ Ў ВАПОШНЮЮ ВАЙНУ

«Амэрыкан Журналь оф Соцыёлёгі» на падставе савецкіх крыніцаў апрацаваў статыстычныя дадзеныя аб цяперашнім стане насельніцтва й аб людзкіх стратах Савецкага Саюзу падчас апошняй сусьветнай вайны. Цяперашняя колькасьць насельніцтва Савецкага Саюзу ўлучна з прылучанымі тэрыторыямі выносіць 181 мільён людзей. Людзкія страты падчас вайны выносяць 37 мільёнаў чалавек. У гэтую лічбу ўваходзяць забітыя на вайне, вывезеныя й забітыя цывільныя. Толькі спасярод цывільнага насельніцтва згінула падчас вайны 18 мільёнаў чалавек.

асабліва сяньня, калі ня толькі народы паняволеныя, але й вольныя стараюцца задзіночвацца ў супольныя міжгаспадарстваўскія арганізмы: блёкі, вуніі, фэдэрацыі, каб гэткім спосабам усьцерагчыся варожай агрэсіі й пасьпяхова ей проціставіцца. Ходзіць тут толькі аб тое, каб супрацоўніцтва з тым ці іншым народам або ўваход у той ці іншы міжгаспадарстваўскі блёк не адбываліся коштам нашых нацыянальных інтарэсаў і нашай сувэрэннасьці на карысьць чужога імпэрыялізму. І таму мы сяньня ўваходзім у тыя толькі міжнацыянальныя палітычныя арганізацыі, супрацоўнічаем з тымі толькі народамі або палітычнымі арганізацыямі гэтых народаў, якія вызнаюць за намі роўнае зь імі права на дзяржаўную незалежнасьць у нашых этнаграфічных межах. І таму няма ў нас сяньня ніякага супрацоўніцтва прыкладам з расейцамі, бо сярод іх ня знойдзем аніводнай палітычнай арганізацыі, ані партыі, якая-б вызнала права на дзяржаўную незалежнасьць народам, паняволеным сяньня бальшавіцкай Расеяй. І ня толькі мы беларусы маем такі падход да расейцаў, але і ўсе іншыя народы, што знаходзяцца сяньня ў бальшавіцкай няволі або зьяўляюцца ёю загрожаныя. Найлепшым довадам гэтага ёсьць факт, што расейцы не зьяўляюцца сябрамі аніводнай міжнацыянальнай палітычнай арганізацыі (АБН, Інтэрнацыянал Свабоды, Міжмор'е, «Прамэтэй») якія, як аснаўны прынцып высоўваюць вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць народаў сярэдня-ўсходняй Эўропы й падсавецкай Азіі.

І дзеля гэтага між іншым мы станоўка выступаем супраць беларускіх зарубежнікаў з пад знаку г. зв. Беларускай Цэнтральнай Рады, якія ў сваей дзейнасьці ня толькі апіраюцца на расейскі элемэнт, але й увесь кірунак дзейнасьці якіх пасрэдна ці непасрэдна служыць захопніцкім мэтам расейскага імпэрыялізму. Хаця зарубежнікі дзеля маскаваньня сяды-тады выступаюць публічна супраць расейскага імпэрыялізму й дэклямуюць аб незалежнасьці Беларусі, то ў самай сутнасьці ўся іхная работа, абапёртая на апартунізме й беспрынцыповасьці й скіраваная на падважаньне й разбурэньне беларускіх нацыянальных пазыцыяў, зьяўляецца грубым запярэчаньнем беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі.

Некалькі вышэй пададзеных фактаў дастаткова пераконвае ў тым, што ўсякі нацыянальна-вызвольны рух павінен быць бескампрамісовым, і незалежным у дачыненьні да мэты, якую імкнецца дасягнуць, і не ўваходзіць у ніякія кампрамісы з тымі варожымі дзейнікамі, якія зьяўляюцца зацікаўленымі ў аслабленьні, а навет заніку гэтага руху. У праціўным-жа выпадку гэты рух ня будзе непасрэдным выяўленьнем народнае волі й імкненьняў, але станецца толькі цацкай у руках тых чужацка-ворожых сілаў, на якія ён арыентуецца. Дастаткова здаючы сабе з гэтага справу, найвышэйшыя органы Беларускай Народнай Рэспублікі, пакліканыя ў 1917 г. воляю ўсяго беларускага народу й упаўнамочаныя ім рэпрэзэнтаваць ягоныя сувэрэнныя правы, ставяць за найвялікшае сваё заданьне ў пераходным переднезалежніцкім пэрыядзе — **захаваньне крыштальнае чысьціні беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі.** І дзеля гэтага на працягу апошніх 32 год існаваньня БНР ані прэзыдэнт, ані Рада, ані Ўрад БНР ні разу не пайшлі на супрацоўніцтва зь ніводным акупантам Беларусі й прэтэндэнтам на яе, незалежна ад таго, ці гэта былі белыя расейцы, бальшавікі, палякі, ці немцы. Калі на пярэдадні выбуху нямецка-савецкай вайны ў 1941 г. зьявіўся ў Празе прадстаўнік нямецкага ўраду да прэзыдэнта БНР сьв. п. В. Захаркі з прапановаю супрацоўніцтва, дык гэты апошні такую прапанову станоўка адкінуў, цьвердзячы, што ідэалам беларускага народу ёсьць ідэал 25 сакавіка, якому ён астанецца заўсёды верным. У гады нячуванага гітлераўскага тэрору прэзыдэнт Захарка піша да сяброў Беларускага Камітэту Самапомачы ў Бэрліне, заклікаючы іх быць станоўкімі і ахвярнымі у змаганьні за незалежніцкія ідэалы беларускага народу. Такім чынам вярхоўныя органы БНР зьяўляюцца ня толькі адзінапраўнымі носьбітамі сувэрэнных правоў беларускага народу, але й руплівымі захавальнікамі й вернымі абароньнікамі чысьціні нашай нацыянальна-незалежніцкай ідэі.

Няважна, што зарубежнікі закідаюць сяньня, што цяперашні прэзыдэнт БНР зьяўляецца прэзыдэнтам па тэстамэнце й што быццам толькі гэта змусіла іх пэйсьці ў зарубежжа. Да рэчы тут адзначыць, што звычаёвае міжнароднае права ведае многа выпадкаў прэзыдэнтаў па тэстамэнце (прыкладам гішпанскі рэспубліканскі ўрад, польскі эміграцыйны ўрад, украінскі й латыскі эміграцыйныя ўрады) ў тых выпадках, калі народ, будучы ў няволі, ня мае магчымасьці выбраць новага прэзыдэнта. Бо ня ў тым справа, якім спосабам зьяўляецца выбраны прэзыдэнт дадзенага народу, але ў тым, ці патрапіў ён і падпарадкаваныя яму дзяржаўныя органы стаць на вышыні ўзложаных на яго заданьняў і ў сваей дзейнасьці пайсьці тэй дарогай, якую перад гэтым вызначыў сам народ. І гэта ёсьць найважнейшае.

Вось дзеля чаго ўсе беларускія незалежнікі, увесь сумленны й ідэйны элемэнт беларускае эміграцыі адкінулі сяньня ўсякія чужацкія апартуністычныя й каньюнктуральныя канцэпцыі, якія, з гледзішча на іхную шкодную дзейнасьць, нячыстыя матывы й варожыя нам мэты, зьяўляюцца недастойнымі рэпрэзэнтаваць нашыя сувэрэнныя правы, якія ня толькі ня імкнуцца да захаваньня часьціні нашае нацыянальнае ідэі, але плямяць яе. Затое ўсе беларускія патрыёты-незалежнікі цесна згуртаваліся пад сьцягам БНР, каб у супольным змаганьні хутчэй дайсьці да нашай агульнанацыянальнай мэты — Вольнай і Незалежнай Беларусі.

**Язэп Каранеўскі.**

## ТЫТО АБВІНЯЕ САВЕЦКІ САЮЗ

Маршал Тыто на кангрэсе югаслявянскай камуністычнай партыі, што гэтымі днямі адбыўся ў Белградзе, абвінаваціў Савецкі Саюз і дзяржавы камінформу у тым, што яны зьўляюцца антырэвалюцыйнымі й адыйшлі ад марксыстаўскай лініі.

Югаславія бароніць асновы марксізму й ленінізму— заявіў Тыто — **супраць рэвізіяністых.**

## СЛАВАКІ – АНТЫКАМУНІСТЫЧНЫ НАРОД

Славакі для шмат беларусаў мала ведамы народ. Між тым, гэта ёсьць народ, гісторыя якога, культурнае й палітычнае жыцьцё вельмі цікавыя й падобныя да нашых гістарычных дачыненьняў. Калі толькі мы зьвернем увагу на дзейнасць славацкага народу за апошнія 50 гадоў, дык пабачым, што вельмі важным мамэнтам гэтай дзейнасьці было змаганьне супраць камунізму.

У 1905 г. славакі зарганізавалі хрысьціянска-дэмакратычную (сялянскую) партыю, якая на працягу 40 год фактычна кіравала нацыянальным жыцьцём Славаччыны. Гэта была каталіцкая партыя славацкіх сялян, на чале якой стаялі выдатныя сьвятары й грамадзкія дзеячы. Яна кіравалася лёзунгам вялікага славацкага патрыёты Андрэя Глінкі — «за Бога й народ».

Кансэрватыўнае славацкае сялянства й слаба разьвінутая прамысловасьць былі добрай падставай для змаганьня з камунізмам. Ужо ў 1905 г. славацкая хрысьць. дэмакратычная партыя асудзіла камунізм ува ўсіх ягоных формах. Падчас існаваньня Чэхаславацкае рэспублікі (ЧСР) гэтая партыя вельмі часта востра выступала супраць камунізму й бальшавізму. Выдатныя кіраўнікі, як — старшыня А. Глінка, ягоны заступнік і ідэалягічны правадыр др. Я. Тысо, а з малодшай генэрацыі К. Сідар ня раз рашуча крытыкавалі афіцыяльную прасавецкую палітыку міністра замежных справаў д-ра Э. Бэнэша у праскім парлямэнце.

Дзеля сваей востра антыкамуністычнай праграмы, славацкая хрысьць-дэмакратычная партыя ў хуткім часе стала вядомай, як партыя Глінкі й заняла першае месца ў палітычным і нацыянальным жыцьці Славаччыны. Праўда, таксама пункт праграмы, што жадаў спачатку аўтаноміі, а пасьля поўнай незалежнасьці Славаччыны, павялічваў шэрагі гэтай партыі. Славацкі народ глядзеў на гэтыя два асноўныя пункты, як на добрую сынтэзу дзеля ізаляцыі ад камунізму й расейскіх уплываў шляхам адбудовы свае дзяржавы на хрысьціянська-дэмакратычных асновах.

Найболей геройскай асобай у змаганьні славацкага народу супраць камунізму й бальшавізму быў забіты прэзыдэнт Славацкай рэспублікі д-р Тысо. Дзесяць гадоў таму назад ён ужо стаяў на чале аўтаномнага славацкага ўраду, калі 18 студзеня 1939 г. быў адкрыты ў Братыславе славацкі парлямант, які два месяцы пазьней абвесьціў незалежную славацкую рэспубліку. Др. Я. Тысо напісаў тады шмат артыкулаў і сказаў яшчэ болей прамоваў у востра антыкамуністычным духу. Будучы ўжо прэзыдэнтам дзяржавы, ён не зьмяніў гэтага свайго палітычнага кірунку. Навет пад канец вайны ён адкінуў прапанову Саветаў заняць месца прэзыдэнта Славацкай Савецкай Рэспублікі. За гэта Саветы зарганізавалі забойчы працэс супраць яго перад «народным» судом які ня мог іначай скончыцца як прысудам на сьмерць. І гэты працэс паказаў, якім цьвердым антыкамуністым быў д-р Тысо. Пракуратура цытавала напр. такія ягоныя выказваньні: «ня лічу славака-камуніста сваім братам», «камунізм — найгоршы хваробны нарыў, які неабходна выразаць». У сваім-жа перадсмертным запавеце да славацкага народу ён уважае сябе за мучаніка антыкамуністычнага змаганьня, адначасна перасьцерагае славакаў перад камунізмам, як іх найбольшай небясьпекай.

Славацкі народ застаўся верным традыцыям Глінкі й Тысо. Як нам ужо вядома, пасьля вайны да цяпер у Славаччыне было выкрыта 38 антыкамуністычных арганізацыяў. Сяньня пануе ў Славаччыне суровы камуністычны рэжым Готвальда, які ўжо пачынае там арганізаваць калгасы. У канцы апошняй вайны было вывезена каля 30 тысяч славакаў у Сібір, а цяпер ізноў пачалі вывозіць у Данбас. Трагэдыя славацкага народу тая самая, што й беларускага ды ўсіх Масквою паняволеных народаў.

У гэтым сумным палажэньні на старожы інтарэсаў славацкага народу стаіць ягоная эміграцыя. У яе шэрагах знаходзяцца дзесяткі выдатных палітыкаў, дыпляматаў, вучоных і журналістых. Ведамаму славацкаму палітыку, які карыстаецца вялікім даверам у эміграцыі й дома, быламу міністру К. Сідару ўдалося злучыць славацкую эміграцыю ў рамах Славацкай Нацыянальнай Рады, якая нядаўна распачала сваю дзейнасьць.

Вельмі пацяшаючым пры гэтым ёсьць факт, што гэтая найвышэйшая славацкая арганізацыя пераймае свае багатыя традыцыі антыкамуністычнага змаганьня. Усе мы, хто меў магчымасьць добра пазнаць славацкую эміграцыю й яе гістарычную мінуласьць, цешымся, што яна цяпер адзіным фронтам выступае супраць бальшавіцкага гнёту й насільля. Вітаем гэтых нашых супольных змагароў. Прыгэтым жадаем ім, каб іхняя 10-ая гадавіна абвешчаньня незалежнасьці Славаччыны была апошняй на выгнаньні .

**У. Курыловіч.**

# ЛІШНІ СТРАХ ПЕРАД СССР?

### ПЕРАЎВЯЛІЧАНАЯ НЕБЯСЬПЕКА?

Многія выдатныя публіцыстыя й палітычныя наглядальнікі заходня-дэмакратычных краінаў шмат зьвяртаюць увагі на небясьпеку Саветаў у будучай новай сусьветнай вайне. Бальшыня зь іх цьвердзіць, што Саветы прадстаўляюць вельмі паважную загрозу й што лёгка могуць апанаваць увесь сьвет. Іншыя — хаця іх мяншыня — на падставе аналізы нутранага палажэньня Савецкага Саюзу й ягонага прамысловага, гаспадарскага ды мілітарнага ўзроўню ўважаюць, што гэтая бальшавіцкая небясьпека зьяўляецца моцна пераўвялічанай і што на выпадак вайны мілітарная перавага будзе на баку заходніх дэмакратыяў.

Да гэтых апошніх між іншым належыць францускі генэрал Сэрыні, які за часоў Пуанкарэ адыграваў вядучую ролю ў францускім генэральным штабе. У францускім часапісе за студзень г.г. «Рэві дэ дэў монд» ён зьмясьціў на гэтую тэму артыкул «Абарона Заходняй Эўропы», у якім цьвердзіць, што зьяўляецца лішнім і непатрэбным разбудоўваць лётніцтва й ваенны флёт для абароны заходня-эўрапэйскіх краінаў перад савецкай агрэсыяй. Паводля Сэрыні, амэрыканцы ўжо сяньня маюць найсільнейшае лётніцтва, а брытанцы ваенны флёт, што заходня-эўрапейскім кантынэнтальным краінам астаецца толькі разбудоўваць наземныя мілітарныя сілы. Аўтар зьбівае цьверджаньне, што заходня-эўрапэйскія вайсковыя сілы зьяўляюцца за слабыя, каб паўстрымаць эвэнтуальны савецкі напад. Ён ёсьць думкі, што Саветы на пачатку маглі-б выставіць 500 дывізіяў, у тым ліку 80 да 100 панцырных. Але з гэтага ліку мусілі-б яны найменш 150 дывізіяў у якасьці рэзэрваў пакінуць на Далёкім Усходзе, а такасама на яшчэ больш загрожаным Блізкім Усходзе. З боку Турэччыны былі-б паважна загрожаныя савецкія нафтавыя раёны, а без нафтавых запасаў, зразумела, ня мог-бы Савецкі Саюз весьці вайны. У самой Эўропе маглі-б Саветы вельмі слаба разьлічваць на васальныя гаспадарствы, бо там палажэньне на столькі крытычнае, што Крэмль мусіў-бы зрэзыгнаваць з правядзеньня агульнай мабілізацыі ў гэтых краінах. Для прапагандных толькі мэтаў маглі-б быць паасобныя рэгімэнты з гэтых краінаў уключаныя ў савецкую армію, але паважнай ваеннай помачы ня могуць Саветы спадзявацца ад Балканскіх гаспадарстваў, Польшчы, Мадзяршчыны й Чэхаславаччыны. Апрача гэтага былі-б Саветы змушаныя пакінуць на ўсякі выпадак на поўначы каля 40 дывізіяў. Калі яшчэ дадаць да гэтага, што Саветы былі-б змушаныя далейшых 100 дывізіяў зарэзэрваваць для ўтрыманьня спакою й парадку на ўсей вялізарнай тэрыторыі Савецкага Саюзу, дык для нападу на заходнюю Эўропу астанецца ім толькі 140 дывізіяў, у гэтым ліку каля 50 панцырных.

Выпадовай лініяй для такога нападу была-б лінія Эльбы з прадмосьцем у Турынгіі. Заходнія саюзнікі ў такім выпадку павінны таксама будаваць сваю абаронную лінію на Эльбе з прадмосьцем у Гольштыніі. А таму не павінна быць і мовы аб тым, што на выпадак вайны трэба было-б пакінуць Нямеччыну аж па Рэйн. У сувязі з гэтым заходзіць неабходная патрэба прыцягнуць Нямеччыну ў якасьці актыўнага ўдзельніка да абароннай сыстэмы заходняй Эўропы. І тут аўтар цьвердзіць, што, ня гледзячы на зусім зразумелыя засьцярогі Францыі, Нямеччыне ўсё-ж такі трэба дазволіць на часткавае ўзбраеньне. Сьпярша маглі-б немцы выставіць толькі рэгімэнты наземнай арміі, а таксама й панцырныя дывізіі. Гэтая нямецкая армія была-б далучаная да наступных ваенных сілаў альянтаў: 50 францускіх дывізіяў, у тым ліку 15 панцырных, а таксама да 6 бэльгійскіх, 4 галяндзкіх, 20 італьянскіх і 25 брытанскіх, якія апрача гэтага мелі-б усе разам 35 панцырных дывізіяў. Заходня-эўрапэйскія гаспадарствы ня маюць аднак магчымасьці ўзброіць гэтую колькасьць дывізіяў. Паводля думкі генэрала Сэрыні, узбраеньне для гэтых дывізіяў павінна даць Амэрыка, але не непасрэдна, а за пасярэдніцтвам Задзіночаных Нацыяў.

Далей аўтар задзержваецца над пытаньнем, ці магчыма гэтымі сіламі паўстрымаць 140 савецкіх дывізіяў на лініі Эльбы. Тут ён бярэ пад увагу вырашальную ролю амэрыкансага лётніцтва й атамнай бомбы, якая, на яго пагляд, павінна быць выкарыстана ня толькі для зьнішчэньня прамысловых уладжаньняў, але такжа як баёвы сродак. Гэта змусіць Саветаў адмовіцца ад канцэнтрацыі больших аддзелаў сваей арміі. Сканцэнтраваныя напады, якія ў свой час прыносілі Гітлеру хуткія й удалыя перамогі, былі-б у гэтым выпадку немагчымыя.

Пры помачы атамных бомбаў можна на лініі Эльбы стварыць зону сьмерці. Сто атамных бомбаў было-б дастаткова, каб там стварыць свайго роду лінію Мажыно новае якасьці. Дзякуючы асаблівым мерам асьцярожнасьці магчыма ўдалося-б некаторым савецкім дывізіям цераз вузкія адрэзкі гэтае лініі, менш абнятыя дзеяньнем радыяактыўных праменьняў, пранікнуць цераз фронт, але затое яны былі-б дасканалай мэтай для амэрыканскіх самалётаў. Такім спосабам ёсьць магчымасьць затрымаць фронт на лініі Эльбы. Але гэты фронт быў-бы ў кажным выпадку толькі абаронным фронтам, а пасьпяховая афэнзыва супраць Савецкага Саюзу павінна быць ведзеная не з Захаду, але з Усходу, іменна з Балканаў, Турцыі й Ірану.

Апрача гэтага можна сабе прадставіць і наступныя яшчэ магчымасьці: Амэрыканцы ў вапошнім часе выпрабавалі вялізарныя транспартныя самалёты. Навейшы заплянаваны тып такіх самалётаў можна ўзяць 50 тонаў цяжару й разьвіваць скорасьць 1.000 кілёмэтраў на гадзіну. Адна такая вялізарная машына, прадукцыя якой ужо прыгатаўляецца, магла-б узяць з сабой 700 чалавек і ў сваім палёце лёгка дасягнуць 5.000 клм. Такім чынам амэрыканцам ня было-б асаблівых труднасьцяў перакінуць у тыл ворага па той бок Віслы цэлую армію колькасьцю 250.000 чалавек разам з поўным узбраеньнем. Для гэтае мэты патрабавалася-б 10.000 такіх самалётаў. Каб усьцерагчыся небясьпекі такіх разьмераў дэсанту, Саветы былі-б змушаныя трымаць у Польшчы для абароны лётнішчаў вялікую часьць сваей арміі. Калі-ж узяць пад увагу, што амэрыканцы пры помачы парашутаў ці іншых апаратаў маглі-б скінуць сваіх жаўнераў ня толькі на лётнішчах, але і ў кажным іншым месцы, дык гэта абазначала-б, што ўвесь Савецкі Саюз быў-бы моцна загрожаны й Крэмль быў-бы змушаны свае сілы расставіць па ўсей тэрыторыі Савецкага Саюзу. Свой цікавы артыкул канчае аўтар славамі: «Меч Дэмоклеса, што вісіць над Эўропай, выглядае такім чынам маленькім кінжалам. Можа тады стацца, што савецкі напад будзе ня чым іншым, як лёгкім уколам іголкі».

**Р.**

---

**Выэміграваўшы ў іншыя краіны, безадкладна навязвайце сувязь з «Бацькаўшчынай».**

# Да нас пішуць

## ЗМАГАЕМСЯ ЗА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СПРАВУ

У лягеры імя Лысэнкі ў Гановэры жывуць беларусы і для іх у 1946 г. была заграізаваная беларуская праваслаўная царква на чале зь сьвятаром а. Міхаілам Сьміроновым. Адразу пры арганізацыі гэтая царква акружыла сябе расейскім актывам, які пры дапамозе ейнага сьвятара перахапіў кіруючую ролю ў ёй. Гэтым няпрошаным «хадатаям» зусім ня залежыць на дабры царквы, як такое. Зьяўляючыся перакананымі ідэалёгамі «единой — неделимой», яны праводзяць у нашым беларускім асяродзьдзі шкодную для беларускае справы працу. Асобы гэтыя не апалітычныя, а суцэльна на грунце царквы імкнуцца будаваць сваю вялікадзяржаўную расейскую палітыку, што ў ніякім выпадку ня можа мець месца ў нашым царкоўна-беларускім жыцьці.

Вернікі — беларусы нашае царквы ад даўжэйшага часу наглядалі гэта і канчаткова пераканаліся, што нашая беларуская царква хіліцца пад уплыў расейшчыны і назоў «беларуская» зьяўляецца толькі прыкрыкаю для розных шахрайстваў і ашуканстваў ды заходнай расейскай працы сярод беларусаў. Пры ўзьнікненьні пытаньня выбараў Царкоўнае Рады беларусы — вернікі дамагаліся перад сьвятаром, каб царкоўную раду выбіралі толькі беларусы, матывуючы гэта тым, што ў беларускіх царкоўных справах маюць права прыймаць удзел толькі беларусы, а ня чужынцы. Сьвятар Сьміроноў выступіў у вабароне расейцаў. Зь імі ён мае найлепшыя прыязныя дачыненьні й сьвядома падтрымлівае іх. 4.12.1947 году ён правеў выбары царкоўнае рады, у якіх беларусы ня ўдзельнічалі. Пры наяўнасьці 22 асобаў расейцаў сьвятар Сьміроноў зрабіў «выбары» царкоўнае рады. Кіраўніком гэтае рады ён вызначыў былога расейскага генэрала Кочкіна. Гэты расеец казаў: «Нашая церковь будет только называться белорусскою, но она в действительности является нашею русскою». У афіцыйных паперах, што тычацца царкоўнага жыцьця, гэты «кіраўнік» царкоўнае рады падпісваецца наступным чынам: «Председатель Совета Белорусской Православной Церкви». Такім чынам наша царква, маючая назоў беларускай, перайшла на бок расейшчыны, куды яе павярнуў сьвятар Сьміроноў разам з расейскім генэралам Кочкіным. На працягу ўсяго існаваньня гэтае «беларускае праваслаўнае царквы» ў Гановэры, мы беларусы ніразу не пачулі ў казаньнях сьвятара аб нашай Бацькаўшчыне Беларусі. Гэтага слова сьвятар Сьміроноў сьвядома ня ўжывае, памінаючы яго, каб не пакрыўдзіць расейцаў. Таксама ніразу ня была адслужана ў ёй паніхіда па загінуўшых героях Слуцкага Паўстаньня, а таксама сьвятар ніразу не адслужыў набажэнства ў дзень 25 Сакавіка. Атрымоўваецца ўражаньне, што сьвятар Сьміроноў служыць не беларускаму народу, а расейцам. Добрае сьцьверджаньне ў гэтым дае тое, што сьвятар Сьміроноў адпраўляе набажэнствы за нашага прыгнятальніка — расейскага цара Мікалая II. Праз гэту царкву праводзіцца поўная русыфікацыя і зьняважаецца наш нацыянальны гонар. Літаратуру царква распаўсюджвае толькі расейскую, так-як «царкоўная рада» лічыць, што расейская мова зьяўляецца «общепонятной».

Сьвятар а. Сьміроноў па нацыянальнасьці зьяўляецца расейцам, а таму ён моцна цягне ў расейскі бок. Калі гэткія цэрквы з такімі сьвятарамі, як а. Сьміроноў, будуць існаваць на працягу даўжэйшага часу, беларусы прымушаны будуць пазбыцца навет свае роднае мовы. Дык вось, браточкі беларусы, да чаго вядзе «беларуская праваслаўная царква» ў Гановэры, на чале якой стаіць сьвятар Сьміроноў. Адказ Вы знойдзеце самі.

Яскрава бачачы, што на гэты зрадніцкі шлях нас беларусаў павярнуў былы наш беларускі япіскапат, мы Гановэрцы ад гэтае расейскае юрысдыкцыі адыйшлі і перайшлі да свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Уласнымі сіламі і сродкамі мы пабудавалі ў лягеры сваю нацыянальную царкву, у якой адбываецца набажэнствы.

27 лістапада 1948 году была адслужана ў ёй паніхіда па загінуўшых Героях Слуцкага Паўстаньня і па ўсіх беларусах, якія аддалі сваё жыцьцё за беларускую справу. На паніхіду была запрошана і ўкраінская грамадзкасьць. Царква наша была перапоўненая прысутнымі. Настаяцель гэтае царквы, высока паважаны пратаярэй а. Кунцэвіч зрабіў зьместоўную і прыгожую прамову. Вернікі ад узварушэньня пачуцьцяў плакалі. Яны ўсе былі перакінутыя сваімі сэрцамі і думкамі да свае мілае Бацькаўшчыны. Некаторыя мелі родных, якія загінулі ў часе Слуцкага Паўстаньня, і амаль кажны меў родных, загінуўшых у часе апошняе вайны. Царква была адпаведна ўпрыгожана кветкамі і зробленых былі вянкі з адпаведнымі надпісамі. У нашым лягеры гэта адбылася першая паніхіда па загінуўшых героях Слуцкага Паўстаньня. Між іншым на гэтай паніхідзе адсутнічалі тры настаўнікі з вучнямі беларускае пачатковае школы нашага лягеру, а іменна: Завістовіч Міхась — ён-жа кіраўнік гэтае школы, Літаровіч Віктар і Брылеўскі Уладзімір, ня гледзячы на тое, што іх з вучнямі на паніхіду сваечасова запрасілі. Гэтыя тры настаўнікі зь пенаю ў роце настроены супраць нашае Аўтакефальнае Царквы. Для іх расейшчына зьяўляецца самым лепшым ідэалам. Усе тры яны вельмі моцна цягнуць за зарубежжа. Яны ў трох намагаюцца ўсімі сіламі перашкодзіць існаваньню нашае Аўтакефальнае Царквы, бо гэта справа патрэбна сьвятару Сьміронову. Завістовіч Міхась навет паабяцаў яму, што прыкладзе ўсе магчымасьці з сваімі двума сынамі ў ліквідацыі нашага прыходу і перадачы царквы а. Сьміронову, царква якога знаходзіцца паза лягерам, на вялізнай адлегласьці ад яго.

Мы беларусы павінны аднак станоўка бараніць свае нацыянальныя інтарэсы таксама і на грунце царкоўным. А дзеля гэтага з зарубежжам нам не па дарозе, а ўсе, як адзін, павінны мы падтрымліваць сваю беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву.

**(Гановэр, ДП Лягер Лысэнкі).**

**Н. П.**

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

## БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ

**Усім нам было даўно вядома, што ў Нямеччыне ёсьць шмат розных міжнародных дабрадзейных арганізацыяў, якія ў розны спосаб дапамагаюць перамяшчэнцам. Але дзеля таго, што, па-першае, гэтыя арганізацыі ў бальшыні маюць рэлігійны характар, а наша духавенства, як ведама, у аснаўным пакінула нас, па-другое, што амаль усе гэтыя арганізацыі апанаваны рознага роду нашымі добра вядомыммі «апякунамі», — беларусы не атрымоўвалі дасюль амаль ніякае дапамогі ад успомненых установаў.**

**Урэшце ўсё-ж такі нам удалося увайсьці ў цесны кантакт з адной із паважнейшых гэных арганізацыяў, якая памагае ўсім нацыянальнасьцям, а цяпер будзе памагаць і нам беларусам. Мы патрабуем толькі мець пэўныя дакладныя дадзеныя.**

**Дзеля гэтага БНК просіць зараз-жа падаць свае прозьвішчы, век і адрасы наступных асобаў й сем'яў.**

**а) Беларусаў праваслаўнага веравызнаньня (адзінокія й сем'і), якія пражываюць на прыватных памешканьнях, таксама тых, што ня маюць статусу ДП, знаходзяцца бяз працы й патрабуюць дапамогі, асабліва сем'і з малымі дзецьмі й хворымі.**

**б) Усіх асобаў, якія ўжо маюць дакуманты на выезд у нейкую краіну (кантракты, візы і г. д.), але маюць цяжкасьці ў сэнсе стану здароўя (зубы, неабходнасьць правесьці апэрацыю, пратэзы і г. д.).**

**в) Хворых, якія пражываючы прыватна, маюць цяжкасьці з прыняцьцем іх у бальніцы IPO.**

**г) Усіх новых уцекачоў з Бацькаўшчыны, паколькі яны яшчэ не карыстаюцца апекай IPO.**

**д) Усіх асобаў старэйшых за 65 год, якія ня маюць магчымасьці вызмігаваць, ані здабыць сродкаў да жыцьця й якія-б жадалі пайсьці ў прытулак.**

**Прэзыдыюм БНК.**

## АД АДМІНІСТРАЦЫІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Адміністрацыя газэты «Бацькаўшчына» разам із № 2(46) выслала ўсім сваім падпішчыкам рахункі, у якіх паказаны разьлік за газэту на 31.12.1948 г. Мы вельмі ўдзячныя тым паважаным падпішчыкам якія ня мелі ніякай задоўжанасьці. Таксама ўдзячныя й тым падпішчыкам, якія пасьля атрыманьня рахунку адразу сваю задоўжанасьць сплацілі. Тых падпішчыкаў, якія да гэтага часу ня выканалі свайго абавязку й задоўжанасьці не аплацілі, мы заклікаем зрабіць гэта безадкладна.**

**Аб нашых фінансавых цяжкасьцях мы пісалі ў № 39(42) з 12.12.1948 г. у спэцыяльным звароце «Да ўсіх беларусаў добрае волі». Цяжкасьці гэтыя сяньня яшчэ павялічыліся й зьяўляюцца паважнай загрозай далейшага існаваньня газэты. Калі-б аднак усе нашыя падпішчыкі ў Нямеччыне, як і паза яе межамі поўнасьцю аплацілі сваю задоўжанасьць, а таксама й бягучую падпіску, то «Бацькаўшчына» магла-б і надалей выходзіць рэгулярна.**

**Абавязкам кажнага Беларуса — падтрымаць выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны».**

## СУПРАЦЬ ЗЛОСНАГА АБВІНАВАЧАНЬНЯ

На апошняй прэсавай канфэрэнцыі IPO ў Бад-Кісінген было пастаўлена пытаньне аб тым, што адзін жыдоўскі журналісты з Амэрыкі Давід В. Нусбаўм, які разам зь іншымі амэрыканскімі журналістымі восеньню мінулага году наведваў лягеры ДП у Нямеччыне й Аўстрыі, распаўсюдзіў потым у Амэрыцы фальшывыя весткі аб ДП. Між іншага ён заявіў, што пераважная бальшыня ДП зьяўляюцца ваеннымі праступнікамі й што яны ёсьць непажаданым элемэнтам у ЗША.

У вадказ на гэта Прэсавы Аддзел Нацыянальнае Каталіцкае Дабрадзейнае Арганізацыі на просьбу IPO апублікаваў сьцьверджаньні пасобных амэрыканскіх карэспандэнтаў, якія прыймалі разам із Нусбаўмам удзел у наведваньні лягераў ДП.

Адзін зь іх **Вільям Э. Рынг, карэспандэнт Нацыянальнай Каталіцкай Дабрадзейнай Арганізацыі** аб гэтым піша наступнае:

«Вашынгтон, 10 сьнежаня 1948 г. — Восім іншых карэспандэнтаў, якія разам з Давідам В. Нусбаўмам наведвалі лягеры ДП у Нямеччыне й Аўстрыі, не пагаджаюцца зь ім заідам, што амаль усе няжыдоўскія ДП зьяўляюцца «непажаданымі» ў ЗША.

Сп. Нусбаўм пашыраў свае закіды ў «Оварсіс Ньюс Эйджэнсі» (Заморская Прэсавая Агенцыя), дзе піша, што пераважаючая колькасьць ДП (каля 400.000) не зьяўляюцца дэпартаванымі асобамі, а што яны добраахвотна пайшлі за арміямі Гітлера, калі апошнія адступалі з Усходняе Эўропы й што 80 проц. зь іх — гэта калябаранты.

У артыкуле для Прэсавай Службы Нацыянальнай Каталіцкай Дабрадзейнай Арганізацыі я даў адказ на закіды сп. Нусбаўма, дзе падчыркнуў, што гэтыя закіды на столькі няпрыгожыя, наскольнкі й неправудзівыя. Я зазначыў, што 550.000 асобаў, якія пражываюць у лягерах, прайшлі войструю праверку, каб вылучыць спаміж іх непажаданы элемэнт. IPO таксама забявязана не дапамагаць рознага роду праступнікам.

Каб пераканацца аб праўдзівасьці маіх заўвагаў, я зьвярнуўся тэлеграфічна да маіх сяброў, якія тады разам прыймалі ўдзел у наведваньні лягераў ДП. I толькі адзін зь іх адмовіўся ад камэнтараў, заяўляючы, што гэта было-б супраць волі газэты, якой ён зьяўляецца карэспандэнтам.

Іншыя-ж сябры заявілі наступнае:

**Джэк Бэлл зь «Міямі Гэральд» і «Чыкаго Дэйлі Ньюс»,** ведамы ваенны карэспандэнт і радыё-камэнтатар заявіў: «Паводля маей думкі, вялікая частка ДП, якія прыбудуць у ЗША, будуць больш вартаснымі за тых імігрантаў, якія прыбылі сюды у вапошніх 20 гадох. Яны прайшлі войстрыя праверкі й спасярод ДП ёсьць шмат інтэлектуалаў і кваліфікаваных работнікаў, якіх ня было сярод імігрантаў апошніх гадоў. Сп. Нусбаўм, будучы за морам, наведваў жыдоўскіх ДП, і таму ён ня можа гаварыць аб ДП, як цэласьці. Я сумляваюся ў яго цьверджаньнях, навет у тых, што адносяцца да жыдоўскіх ДП».

**Джозэф К. Шэрад із «Індыянаполіс Стар»:** «Цяжка ўявіць сабе, што двух карэспандэнтаў, адбываючых тое самае падарожжа, пытаючы тых самых людзей, могуць вынесьці процілеглыя ўражаньні, як гэта мела месца із мною і сп. Нусбаўмам. Адведваючы першы транспарт ДП, што выяжджалі ў ЗША, я ганарыўся гэтымі людзьмі, якія адважна стаялі перад пачаткам новага жыцьця. Калі яны пялі «Божа благаславі Амэрыку», дык я верыў, што яны й так думалі. Сп. Нусбаўм у той час быў перапоўнены страхам, што Амэрыка напоўніцца нацыстоўскімі загаворшчыкамі, квіслінгамі, сабатажнікамі й іншым крымінальным элемэнтам. Я думаю, што скрынінг IPO, кансулят і імігацыйнае бюро ёсьць пэўнымі й дзейнымі. Я быў пад добрым уражаньнем, а не пад страхам, бачачы нашых новых будучых грамадзянаў».

**Эд Армстронг зь «Вініпэг Фры Прэс» (Канада):** «Канада задаволена з ДП усіх расаў і пераканаьняў. Ужо прынята больш за 42.000 і робіцца намаганьні, каб узмоцніць рух караблёў з Брэмэнгафэн і палегчыць абмежаваньні, асабліва ў дачыненьні да тых уцекачоў, якія маюць сем'і. Даваньне прытулку для ўцекачоў — гэта адна з найсільнейшых і найстарэйшых брытанскіх традыцыяў, якія пераняла й Канада».

**Чэлмэрс М. Робэртс з «Вашынгтон Стар»:** «Пасьля наведваньня ДП лягераў у Нямеччыне й Аўстрыі й вярнуўшыся зь першым транспартам ДП у ЗША, я пераканаўся, што гэтыя людзі, былыя ахвяры сталінскага й гітлераўскага таталітарызму, будуць грамадзянамі ЗША першай клясы».

**Сэм Эдкінс з «Лююісвіль Кур'ер Журналь»:** «Я ня веру закідам сп. Нусбаўма ў дачыненьні да гэтых людзей. Ягоныя цьверджаньні, што запраўдныя ДП ёсьць толькі жыды, выглядаюць на дзіцячую прапаганду й ягоныя закіды сумлёныя. Мае ўражаньні такія, што толькі вельмі малая частка ДП можа быць азначана, як «непажаданая».

**Дэ Віт Джоўк з «Крышчэн Саенс Монітор»:** «Нядаўна я пісаў аб ДП, што спасярод іх ёсьць банкіры й прафэсары, дамашніх гаспадыні й студэнты, мастакі й мэханікі, земляробы й рамесьнікі. Яны прадстаўляюць сабою камплекс прафэсіяў і талентаў, прадстаўнікоў розных народаў, што маюць за сабой трагічныя пераж ываньні».

**Робэрт Б. Армстронг малодшы, шэф Вашынгтонскага Бюро «Ст. Люі Глёўб-Дэмократ»** заўважыў: «Робячы агульны закід, што 400.000 ДП у Эўропе ня ёсьць вартымі быць амэрыканскімі грамадзянамі таму, што яны ёсьць ахвярамі камуністычнага тэрору й тыраніі, а не ахвярамі нацыстскага пераслеваньня, ёсьць так фальшывым і несправядлівым, як і напады камуністых, што ЗША ёсьць народам ваенных падпальшчыкаў. Называючы нямецкімі калябарантамі цэлыя народы, якія страцілі сваё існаваньне, дзякуючы чырвонаму гвалту, было-б да твару нямецкаму міністэрству прапаганды. Гэтыя неабаснаваныя беспадстаўныя закіды супярэчаць атрыманым інфармацыям. Калі-б гэтыя атакі ня былі такія шкодныя й ня ўводзілі ў блуд, дык можна было-б зь іх сьмяяцца, што яны абаснаваныя на дрэннай інфармацыі і маюць на мэце выклікаць сэнсацыю».

**Джэк Дэлены з «Провідэнс Джурналь»:** «У маіх папярэдніх апавяданьнях аб Эўропе я казаў: Найлепшыя людзі ў Эўропе — гэта ДП». Я паўтараю гэта ізноў. Праблема расьселеньня ДП не павінна быць абцяжана расавымі ці рэлігійнымі прычынамі. Ніякая група не павінна быць вылучана. Усе ДП ёсьць аднолькава пажаданымі».

Для нашай абароны перад фальшывымі закідамі й беспадстаўнымі абвінавачаньнямі асабліва важным і прыемным ёсьць факт, што многія міжнародныя дабрадзейныя арганізацыі шчыра заступіліся за нас, так шчыра, як і выжэй успомненыя амэрыканскія журналісты. Гэтак у сувязі із злосным і несправядлівым нападам Нусбаўма Рада Міжнародных Дабрадзейных Арганізацыяў абвесьціла асьветчаньне наступнага зьместу:

«Рада Дабрадзейных Арганізацыяў Амэрыканскае Зоны, якая рэпрэзэнтуе 22 арганізацыі, уключаючы каталіцкую, жыдоўскую, праваслаўную й пратэстанцкую, паважна глядзіць на асьветчаньні сп. Нусбаўма, у якіх цьвердзіцца, што большая частка ДП, якая мае эміграваць у ЗША, зьяўляецца былымі калябарантамі. Сябры Арганізацыяў Рады сьцьвярджаюць, што бальшыня з гэтых людзей ня была калябарантамі. Яны былі праверaныя рознымі камісіямі амэрыканскай арміі й IPO. Ніякая арганізацыя ня скрывала сьведама калябарантаў, і калі такія былі выяўлены, яны зараз-жа пазбаўляліся апекі. Зразумела, што некаторыя ваенныя праступнікі будуць старацца падшыцца пад ДП. Тыя нацыянальнасьці, якія найбольш супрацьўляліся рэжыму Гітлера, найбольш актыўна стараліся выявіць гэтых асобаў.

Таму мы думаем, што асьветчаньні сп. Нусбаўма ёсьць няпрыгожыя й абражаючыя тых людзей, бальшыня якіх цярпела ад паліцыйных дзяржаваў».

**(Паводля Прэсавай Службы Нацыянальнай Каталіцкай Дабрадзейнай Арганізацыі).**

Whiteruthenian Weekly „The Fatherland"
Authorized by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 20 July 48, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies.
Administration: (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian, D.P.Camp.
Licensee: Wladimir Bortnik.
Edited by: Whiteruthenian National Commitee.
Printed by: Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 1a.